# ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

**Верасень 2014**

**Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"**

## У НУМАРЫ:





**ТЭСТАМЕНТ**

*(на асобныя віды маёмасці з размеркаваннем маёмасці паміж спадкаемцамі)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

з маёмасці, што мне належыць:

- зямельны надзел плошчай 0,545 га, з размешчаным на ім садовым дамком нумар ____ (____), што знаходзіцца ў Гомельскай вобласці, Веткаўскім раёне, садаводчым таварыстве "Захад", я пакідаю ў спадчыну брату *Прозвішча Імя Імя па-бацьку;*

- гараж нумар ___ (____), размешчаны ў горадзе Гомелі, па вуліцы Купалы, дом ____ (_____), у гаражным спажывецкім кааператыве "Усходні", я пакідаю сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*;

- акцыі адкрытага акцыянернага таварыства "Аграстайл" (рэгістрацыйны нумар _____________ ) я пакідаю дачцэ *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*.

**ТЭСТАМЕНТ**

*(на ўсю маёмасць з тэстаментарнай адмовай па здзяйсненню перыядычных плацяжоў)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

усю маёмасць, якая да дня маёй смерці будзе мне належыць, у чым бы яна не змяшчалася і дзе б яна не знаходзілася, я пакідаю ў спадчыну майму сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*.

Пры гэтым ускладаю на яго абавязкі здзяйсняць плацяжы ў памеры дзесяці базавых велічынь штомесячна на карысць маёй жонкі *Прозвішча Імя Імя па-бацьку* напрацягу яе жыцця.

**ТЭСТАМЕНТ**

*(на асобныя віды маёмасці некалькім спадкаемцам у роўных долях і ўказаннем умовы атрымання спадчыны адным са спадкаемцаў)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

кватэру нумар ____ (____), што належыць мне па праву ўласнасці, што знаходзіцца ў Гомельскай вобласці, горадзе Мазыры, па вуліцы Купалы ў доме нумар ____ (_____), я пакідаю ў спадчыну наступным чынам:

- 1/2 (адна другая) долі – жонцы *Прозвішча Імя Імя па-бацьку;*
- 1/2 (адна другая) долі – дачцэ *Прозвішча Імя Імя па-бацьку,* з умавой перадачы яму гэтай долі пры дасягненні ёй 35-гадовага ўзросту.

*"Справаводства па-беларуску!-2014"*

M&S MEDIA

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" *"Справаводства па-Беларуску!"*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя "Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275
*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:***
**gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA